Opłata przesyłkowa opłacona ryczałtem.

№ 6 (8). Пятніца 10-га Жніўня 1928 г. м. Вільня. Год II.

# БЕЛАРУСКІ РАДНЫ

Пэрыядычная часопіс па самаўрадавым справам нашага краю.

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ: WILNO, Zawalna 6–5. Тэлефон 14-35.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА: За 3 месяцы . . . . 2 зл. 1 нумар . . . . . . 50 гр.

АБВЕСТКІ ПА УМОВЕ

## Паўночны Кірмаш і Краёвая Ральніча-Прамысловая Выстаўка ў Вільні.

18 жніўня мае адчыніцца ў Вільні і трываць да 9 верасьня так званы „Паўночны Кірмаш“, побач з якім наладжана адначасна і Ральніча-Прамысловая Выстаўка, якая мае нядзэцыдаваны нахіл зьявіцца выстаўкай агульна-краёвай.

Згодна з новым лёзунгам так званага „рэгіоналізму“, ці „адміністрацыйнай краёвасьці“, выстаўка ў Вільні павінна быць перадусім, калі ня выключна, выстаўкай Віленскага ваяводства. І запраўды, цэлы вялізарны аддзел выстаўкі будзе ахвяраваны паказу ўсяго таго, што даканана ў галінах культуры, гаспадаркі і адміністрацыі за 10 задоў пanaваньня адроджанай Польшчы і працы польскай ўлады ў Віленскім ваяводзтве. Да такога-ж самага паказу запрошана на выстаўку і Навагрудскае ваяводства. Але ці будзе і яно прэдстаўлена на выстаўцы таксама поўна і ўсебакова, як Віленскае, невядома.

Такім чынам у тым нязвыкла-важным здарэньні, што мае адбыцца ў Вільні ў другой палове жніўня і першай палове верасьня, трэба адражняць тры рожныя рэчы: усепольскі „Паўночны кірмаш“, падобны кірмашам—„Усходняму“ у Львове і „Заходняму“ у Пазнані; угодкавую „рэгіональную“ выстаўку культурна-гаспадарча-адміністрацыйнага стану Віленскага ваяводзтва і Ральніча-Прамысловую выстаўку, маючую няясны нахіл ахапіць увесь наш Край, а прынамся яго „паўночна-усходнія ваяводзтвы“.

„Паўночны Кірмаш“ мае выдатны агульна дзяржаўны характар. Пры гэтым „Паўночны Кірмаш“ мае пераважна мэты загранічнага гандлёвага абмену Польшчы. На кірмаш маюць дзеля таго зьехацца з сваімі экспонатамі (таварамі на паказ) ня толькі вялікшыя экспортавыя фірмы і вытворчыя заклады з усяе Польшчы, але і шмат такіх-жа фірмаў і закладаў загранічных. Асабліва шмат спадзяюцца экспонатаў з Чэхіі, Аўстры, Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі. Аб учасьці ў Віленскай выстаўцы вялікіх прамысловых дзяржаваў Заходу нешта ня чуваць, з іх лічбы учасьце Нямеччыны, якая пэўне-ж не пашкадавала-б фатыгі і выдаткаў на адведзіны Вільні, згары выключана дагэтуль ня спыненым „станам гаспадарчай вайны“ з Польшчай.

Ня чуваць нешта і аб учасьці у выстаўцы нашага-усходняга суседа, які, здаецца, прымаў нядаўна ўчасьце ува „Усходнім кірмашы“ у Львове. Ня будзе на кірмашы і нашых закардонных братоў з Радавай Беларусі.

Абедзьві гэтыя часьціны Віленскага паказу маюць для нас, баларусоў-краёўцаў, значную цікаўнасьць, але-ж пэўне не захопліваюць нас так жыва, блізка і актыўна, як трэцяя складовая частка вялікага васеньняга сьвята нашага Краю — Ральніча-Прамысловая Выстаўка, якой ад нас, Беларусоў, залежыць прыдаць ярка і здэцыдавана краёвы, а ў значнай меры і беларускі характар!

Дык на запросіны Камітэту выстаўкі, сярод сябраў якога шмат краёўцаў-прыхільнікаў Беларускага народу, адгукнуўся і пачаў актыўна працаваць у гэтым напрамку цэлы сьцяг суадказных беларускіх установаў, палажыўшы як мэту свайей працы — прэдставіць на Віленскай Прамыслова-Ральнічай Выстаўцы у Вільні па магчымасьці поўна і ўсебакова **культурны і гаспадарчы стан і творства вялі-**

**зарнай большасьці насяленьня ўсяго нашага Краю-Беларускага народу**, без чаго пэўне-ж ня можа Віленская выстаўка мець запраўднага краёвага характару. Гэтым беларускім культурна-навуковым установам належыць за іх важны пачын і працу — ад усіх вялікая падзяка.

Але ад нашага сьведамага грамадзянства, дый ад усяго беларускага жыхарства Краю будзе залежыць канчальны і поўны пасьпех гэтага іх ахвярнага пачыну. Дык да падтрыманьня гэтай працы арганізатараў беларускага аддзелу мы і заклікаем тутака ўсе жывыя сілы нашага народу!

Такім чынам выстаўка ў Вільні для беларускага жыхарства Краю мае падвойнае значэньне. Беларускі жыхар краю павінен на ёй, як кажа прыслоўе, „і на людзёў паглядзець і сябе паказаць". Усе, што пакажуць нам на выстаўцы бязумоўна вышэйшыя польская і заграгічная культура, тэхніка, прамысловасьць, рольніцтва, для нашага, амаль ня выключна сялянскага, значна адстаўшага ад сваіх заходніх братоў, народу мае вялізарную цікаўнасьць і карыснасьць. Нашы сельскагаспадарчыя звычаі, спосабы, прылады значна адсталыя і ўстарэлыя; нашы хатнія промыслы стаяць часта на першабытным роўні... Нам трэба вучыцца і вучыцца бяз конца ад старшых вышэйшай культуры народаў.

Дык усякі, хто толькі здолее ахвяраваць на праезд у Вільню хаця на якую пару дзён пару дзесяткаў вольных залатовак, павінен не шкадаваць зрабіць гэта: бо-ж ня хутка ён дачакаецца новага такога выпадку наглядзецца на тое, як працуюць на сьвеце людзі вышэйшай культуры, да чаго дайшлі багацейшыя народы, асьветляныя навукай у сваей працы, наладжанай здабычамі магутнай тэхнікі. Хай кожны зразумее добра, што ня толькі ня выкіне ён, калі прыедзе на выстаўку, сваіх грошаў намарна, але наадварот — выкарыстае іх як найлепяй, бо патройна верня іх назад, набраўшыся розуму і дасьледу у сваім рамесным ці гаспадарчым фаху з таго, што ён убачыць у Вільні.

Але-ж побач з гэтым для сьведамага беларуса паўстае ў зьвязку з выстаўкай ў Вільні і другая няменш, калі ня больш важная задача.

Перш-наперш, зьявіўшыся сам з сваей асобай грамадой на выстаўцы, беларускі жыхар Краю ўжо самым гэтым фактам зробіць вялікую рэч: ён **пакажа усяму зьехаўшамуся ў Вільню, у сталіцу Краю, сьвету сваей асобай, сваей вопраткай, сваей мовай, што гэты край ня толькі польскі, але і беларускі.**

Такім чынам набраўшыся веды, розуму і дасьледу, селянін Беларус споўніць мімаходам і свой **грамадзка-нацыянальны абавязак**, пакажа, што без яго ўжо ня можа адбыцца такое важнае здарэньне ў Краю, дзе ён складае бяспрэчную большасьць насяленьня!

Але сьведамы, працавіты, энэргічны працаўнік народ-гаспадар Краю ня можа і гэтым абмяжавацца: ён павінен і актыўна прыняць учасьце ў выстаўцы, каб паказаць усяму сьвету, на што здольны мазольныя рукі мясцовага беларускага працаўніка, што ўмее, да чаго дайшоў беларускі гаспадар-хлебароб, беларускі вясковы ці мястачковы мастак „кустар" — ганчар, такар, ткач, шапавал, рымар, каваль, на якія пекныя, слаўныя калісьці на цэлы сьвет вырабы тканіны здольная ёсьць беларуская працавітая жанчына на вёсцы! Будзем вучыцца ад усіх, але-ж ня будзем перад усім гардзіць сваім, бо толькі шануючы сваё патрапім падняць тое, што ўжо маем і ўмеем, на вышэйшы ровень!

Дзеля таго і мы з свайго боку шчыра вітаем пачын беларускіх установаў, узяўшых на сябе арганізацыю выстаўкі беларускага хатняга прамыслу, культуры і мастацтва з усяго нашага Краю ў часе вялікага віленскага паказу. Дзеля таго і мы заклікаем горача ўсё беларускае жыхарства да актыўнага ўчасьця ў гэтай вялізарнай важнасьці для Краю справе. Мы пэўныя, што нашы сялянскія беларускія самаўрады першыя зразумеюць усю культурна і гаспадарча ўзгадаваўчую ролю Віленскай выстаўкі і першыя далажаць усіх сілаў, каб аблягчыць шырокім масам беларускага жыхарства адведзіны выстаўкі, дапамогуць і ў працы зьбіраньня і дастаўцы на вывстаўку беларускіх экспанатаў.

Нажаль і ў гэтым, здавалася-б цалком апалітычным безпартыйным ўсенародным дзеле не абыйшлося сярод „павадыроў" без „партыйных" ды асабістых сутычак ды сварак, якія пэўне-ж адабюцца на агульнай справе згоднага і поўнага ўчасьця беларускага грамадзянства ў выстаўцы, значэньне якой зусім бяспрэчнае для ўсіх.

У выніку незразумелых для нас меркаваньняў адмовіўся ад учасьця у краёвай выстаўцы беларускай гаспадаркі і культуры — „Інстытут Беларускай Гаспадаркі і Культуры", якога мэтам, як можна дагадацца, ня супярэчаць выстаўкі!... Пасварыўся чамусьці з установамі, узяўшымі на сябе арганізаваньне беларускага аддзелу выстаўкі і докт. Янка Станкевіч з сваім „Сельска-Гаспадарчым Зьвязам".

Такім чынам на выстаўцы, можна сказаць, маюць быць прэдстаўлены побач з пазытыўнымі сьветлымі бакамі беларускай гаспадаркі, культуры, прамыслу і мастацтва таксама і ад'емныя сумныя староны беларускага грамадзянскага жыцьця і яго палітычнай „культуры"...

## Ад Рэдакцыі.

Пасьля таго, як гэты артыкул ужо быў зложаны, мы даведаліся з пэўных крыніцаў, што дзеля недасягненьня паразуменьня між рожнымі беларускімі арганізацыямі ў Вільні, беларускага адзелу на Паўночнай Выстаўцы зусім ня будзе. Гэткім чынам „краёвая" выстаўка —кірмаш абойдзецца без рэпрэзэнтацыі беларусоў, складаючых большасьць насельніцтва Краю. Сумнае зьявішча!..

# Забарона караньня Ізбамі Скарбовамі гмінау.

Міністэрства Скарбу выдала 22-га ліпня 1928 года наступны загад да ўсіх ізбаў, скарбовых і скарбовых выдзялаў у справе караньня імі гмінных радаў:

„Да ведама Міністэрства Скарбу дайшло, што некатарыя скарбовыя ўлады стасуюць у адносінах камунальных саюзаў карныя санкцыі з 116 пар. закону аб дзяржаўным дахадовым падатку (Dz. U.R.P. №58 ад 1925 г. § 411) — за нетэрміновую уплату да скарбовых касаў дахадовага падатку, сьцягваемага паводле II аддзелу закону аб пэнсіях камунальных працаўнікоў.

Гэта няльга прызнаць праўным, калі прыняць пад увагу публічна-праўны характар камунальнага саюзу і на'т пярэчыць пастанове 101 пар. адноснай уставы, па разуменьню якой публічныя ўлады і урады адказваюць за нарушэньне уставы аб дзяржаўным дахадовым падатку паводле агульна абавязуючых арганізацыйных ці службовых загадаў.

Дык у выпадку невыкананьня даным камунальным саюзам гэтага абавязку скарбовыя ўлады павінны зьвяртацца да надглядных уладаў над гэтым саюзам з тым, каб былі выданы загады, ці данны камунальны саюз стасаваўся да абавязуючых загадаў закону.

Геты загад належыць аб'явіць падлягаючым скарбовым уладам і пільнаваць за належным выкананьнем.

**(—) Кошко.**
**Дырэктар Дэпартамэнту.“**

# Да Сяброў Валасных і Павятовых Самаўрадаў.

Урад Беларускага Студэнскага Саюзу з мэтаю ўзаемадапамогі незаможным беларускім студэнтам у канцы 1927 і пачатку 28 году звярнуўся да ўсіх Самаўрадаў Беларускіх Земляў пад Польшчаю з просьбаю матэр'яльнае дапамогі для беларускага студэнства.

У хуткім часе пасьля гэтага звароту ад некаторых Самаўрадаў атрымалі адказы, ці то адмоўныя, ці з паведамленьнем аб вызначэньні пэўных субсыдыяў.

Ад большасьці Самаўрадаў аднак мы не атрымалі аніякіх адказаў, але з прыватных крыніцаў даведываемся, што некаторыя Самаўрады, з недаўшых нам ніякага адказу на нашыя просьбы, перавалжна Наваградзкага ваяводзтва, высыгнавалі пэўны лік грошаў на выппададзеныя мэты, але правядзеньню ў жыцьцё гэтых пастановаў стаяць на перашкодзе Павятовыя Соймікі адносных Самаўрадаў, ці, інакш кажучы, не зацьвярджаюць пастановаў валасных радаў аб дапамозе для беларускага студэнства.

У зьвязку з гэтым ласкава просім Валасныя Рады, або паасобных Сяброў Валасных Радаў, якія ўхвалілі пэўныя субсыдыі для Беларускага Студэнскага Саюзу, павядаміць нас у якнайхутчэйшым часе аб наступным:

1) Які Самаўрад, калі і колькі асыгнаваў для Б. С. С.

2) Дзеля якой прычыны дагэтуль няспоўненая пастанова.

Атрымаўшы такія дадзеныя, Беларускі Студэнскі Саюз будзе ад сябе вясьці адпаведныя стараньні аб правядзеньні ў жыцьцё пастановы таго ці іншага Самаўраду адносна нашае просьбы.

Павядамляць нас аб гэтым просім якнайхутчэй, і найлепш было-б спосабам афіцыяльным ад імя Валасных Урадаў, але калі гэтага зрабіць немагчыма, дык просім паведамляць нась прыватна (асабіста каторы небудзь сябра Валасной Рады) на адрэс наступны: **„Беларускі Студэнскі Саюз“ — Вільня — вул. Сьвятой Ганны № 2.**

За Старшыню **(—) Я. Ермаковіч**

Сэкрэтар **(—) Ст. Станкевіч**

Вільня 6—VIII 28 г.

# Тутэйшая хроніка.

— **Паўночна выстаўка без беларускага аддзелу.** У апошнюю хвіліну мы даведаліся, што нажаль наПаўночнай выстаўцы беларускага аддзелу зусім ня будзе. Справа гэтая выглядае так: з самага начатку да Магістрату зьвярнуліся з просьбай аб мейсцы на выстаўцы Навуковае Таварыства, у склад якога увахо- дзяць Р. Астроўскі, пасол Дварчанін, радны Віленскага Магістрату К. Крук і іншыя і Гаспадарчы Зьвяз пасла Я. Станкевіча, якому Урад на'т адпусьціў на гэтую мэту 3,000 залатых. Магістрат прыхіліўся да просьбы Навуковага Таварыства, а Гаспадарчаму Зьвязу адмовіў. Вось з гэтага, як відаць, тутака і распачаліся непаразуменьні: у Я. Станкевіча грошы, а у Навуковага Т-ва мейсца. Гэтыя непаразуменьні цягнуліся аж да апошняга часу і як вынік іх—аканчальная ліквідацыя беларускага аддзелу, к падрыхтоўцы якога ўжо былі зроблены першыя крокі.

А шкада. Ураду трэ' было адпушчаць грошы не Гаспадарчаму Зьвязу, ці каму іншаму, а наогул арганізацыйнаму камітэту беларускага аддзелу, які укантатаваўся — бы з прадстаўнікоў усіх арганізацыяў. Але няпер ужо нічога не направіш.

— **Зьезд легіёнэраў у Вільні.** У Вільні 12 гэтага месяца распачнецца зьезд легіёнэраў з усяе Польшчы, які працягнецца да самага пачатку паўночнае выстаўкі. На зьезд прыбудзе каля 6,000 удзельнікаў. Адчыніць зьезд маршалак Пілсудзкі, які ў нядзелю 12 жніўня а 6 г. увечары выгласіць у тэатры „Рэдута“ на Вял. Пагулянцы адчыт.

— **Старшыня Беларускага Камітэту па справам Самаўрадаў** п. Я. Ярош перанёс Камітэт па Справам Самаўрадаў з Гарбарскай вул. № 5-3 да памешканьня Рэдакцыі „Беларускага Раднага“ на вул. Завальную № 6-5

— **Падвышка пасажырскай тарыфы на чыгунцы.** Ад 15 жніўня г.г. на польскай чыгунцы будзе падвышаны пасажырскі тарыф на 20 проц. Атрыманы з гэтай падвышкі даход пойдзе на пакрыцьце 60 мільёнаў гадавога дэфіцыту з коштаў пасажырскага правозу.

# Самаўрадавая хроніка.

— **Перанясеньне сядзібы павету з Сьвенцянаў да Нова-Сьвенцян.** У панядзелак 6 жніўня адбылося надзвычайнае паседжаньне местовай Рады у Сьвенцянах, на якім абгаварывалася пытаньне аб перанясеньні сядзібы павету да Нова-Сьвенцян. Рада аднагалосна ўхваліла перанясьці сядзібу павету і выбрала дзеля гэтага спэцыяльную камісію, якая распачне адпаведныя крокі перад уладамі.

— **Барацьба з злачынствамі гмінных сэквэстратараў.** Дзеля таго, што часта сьцьвер джаюцца злачынствы на грунце збору падаткаў гміннымі сэквэстратарамі, ваяводзкі Урад зьвярнуўся да старшыняў павятовых аддзелаў у Вільні, Браславе, Глыбокім, Маладэчні, Паставах Ашмянах і Сьвенцянах, каб даручылі інспэктарам гмінных самаўрадаў зьвярнуць спэцыяльную ўвагу на пытаньні, зьвязаныя з зборам падаткаў.

— **Паседжаньне Сойміку Баранавіцкага павету.** 3 жніўня адбылося паседжаньне павятовага Сойміку Баранавіцкага павету, на якім быў выбраны сябра Ваяводзкае Рады.

— **З Сьвенцянскага павету.** У бюджэце на 1928-29 г. Сьвенцянскі Соймік вызначыў 113,000 (17% усяго бюджэту) на падтрыманьне ральніцтва. Інтэнсыўная праца Сойміку уяўнілася гэтак сама і ў галіне будовы дарог (шошаў). Выдаткі на гэтую мэту складаюць 252,758 зл., ці 38 проц. бюджэту.

— **Зьезд дэлегатаў kółek і арганізацыяў ральнічых.** У мінуўшую нядзелю адбыўся ў Маладэчні зьезд kółek і арганізацыяў ральнічых Маладэчанскага павету, у якім прыняла ўдзел 150 дэлегатаў, рэпрэзэнтуючых 50 пляцовак, раскіданых на тэрэне цэлага павету. У выніку пастаўлена стварыць павятовы саюз kółek і ральнічых арганізацыяў Маладэчанскага павету.

— **Чыгунка паміж Друяй і Варапаявам** Як пішуць польскія газэты, будова гэтае чыгумкі распачнецца ў гэтым месяцы. Дырэктарам будовы вызначаны інж. М. Развароўскі, Нач. Аддз. Тэхнічнага інж. Кубліцкі, інжынерамі на лініі п.п. Янкоўскі, Куля і Смарыга. Бюро будовы месьціцца у Вільні на Татарскай вуліцы № 5

Пачатковым пунктам новае лініі будзе Друя. Затым у Мёры, Пагосьце, Шаркоўшчыне і Палове будуць будавацца станцыі, а Грыцевічы, Забожэ, Зданы, Глошыца і Белькі будуць служыць як разьезды. Уся лінія будзе мець даўжыню 95 кілёмэтраў.

Галоўнейшыя масты будуць збудаваныя праз рэчкі Дзісьнянку, Ільянку і Палавіцу. Меншых мастоў будзе каля 100. На 19 г. месяца вызначаны таргі на работы земляныя і будовы мастоў і пасьля гэтага распачнуцца работы ад Друі на працягу 30 кіл. На вясну 1929 году работы пойдуць па ўсей лініі будаваньнем станцыённых і іншых дарожных будынкаў а па будаваньні мастоў і тору ужо на восень распачнецца укладаньне шынаў, якое будзе цягнуцца і зімой, калі пагода на гэта пазволіць. На вясну 1930 году пачнецца баляставаньне тору і пад восень 1930 году гатовая чыгунка перадасца Віленскай Дырэкцыі для эксплёатацыі З дапамогай дзяржаўнаму Скарбу на гэтую будову само сабой разумеецца прыходзяць гмінныя самаўрады, якія запрапанавалі аддаць безплатна пад чыгунку патрэбную зямлю і будуць безплатна дастаўляць шпалы і тэлеграфныя слупы і безплатна развозіць іх па лініі.

— **Будова шашы паміж Вільняй і Ландваровам.** Праэкт будовы шашы, прадстаўляны Віл.-Троцкім Соймікам, ужо зацьверджаны праз Дырэкцыю Публічных Работаў, і дарожны аддзел Сойміку, вядзе падрыхтоўчую працу да будовы і мяркуе у бліжэйшых днях прыступіць да фактычнае будовы. Будова ўсей шашы ад Панарскае капліцы праз Мураваную Ваку да Ландварова аблічана на 2 гады. Кошт будовы у агульнай суме каля 400,000 зл. панясуць скарб дзяржавы, павятовы Соймік і гміны Троцкая і Рудзіская.

— **Пазычкі на адбудову шляхаў.** Міністэрства грамадзкіх работ падае да ведама, што ў бюджэце міністэрства на 1928-29 г. прадбачана сума ў 700,000 зл. спэцыяльна на мэты будовы шляхаў. Дзеля гэтага самаўрады могуць зварачвацца за пазычкай, якія выдаюцца на 10 гад. па 8 проц. гадавых. З гэтай сумы могуць карыстацца толькі тыя павятовыя аддзелы і гмінныя рады, будуючыя дарогі ці масты, якія ня могуць атрымаць пазычак на гэтыя мэты з іншых крыніцаў.

— **Пазыка на будову школьных будынкаў.** Банк Краёвае Гаспадаркі прызнаў Дарэў-

скай, Астроўскай і Нядзведзкай гмінам Баранавіцкага павету пазыку ў 40,000 зал. у золаце на будову новых школьных будынкаў.

У зьвязку з гэтым нельга не ўспомніць, ў якіх варунках існуюць тыя некалькі беларускіх пачатковых школаў, якія адчынены на аснове закону аб мове ў школьніцтве. Яны месьцяцца у звычайных, не прыстасаваных да школы сялянскіх хатах, якія служаць адначасна і памешканьнем для гаспадароў будыніны. Недахоп месца і сьвятла робіць навуку цяжкой зароўна для дзяцей, як і настаўнікаў. Беларускія прадстаўнікі ў самаўрадзе павінны дамагацца, каб з прызнаных Урадам крэдытаў былі пабудованы будынкі і для беларускіх пачатковых школаў.

— **Пазыка на мэліарацыю Дзяржаўнага Зямельнага Банку.** На аснове загаду Міністэрства Зямельных Рэформаў, Скарбу і Земляробства Дзяржаўны Зямельны Банк разпачаў выданьне пазыкаў на мэліарацыю водным супалкам, паасобным земляробам (пад гіпотэчнае забясьпечаньне) і вясковым гмінам. Пазыкі выдаюцца на 15 гадоў, пры гэтым сплата пачынаецца праз $2^1/_2$ гады пасьля атрыманьня пазыкі і трывае $12^1/_2$ гадоў. Просьбы ў справе пазыкаў прынімае Дзяржаўны Зямельны Банк у Варшаве, а на правінцыі яго аддзелы.

— **Рэгуляцыя ракі Дзітвы.** У найхутчэйшым часе маюць распачацца працы па рэгуляцыі Дзітвы, нізкія берагі якой маглі-б быць добрымі лугамі.

— **Барацьба з пажарамі на вёсках.** Міністэрства Унутраных Справаў выдала загад, каб у бюджэтах вясковых гмінаў, не маючых дагэтуль пажарных машынаў, былі вызначаны спэцыяльныя сумы на набытак пажарных насосаў, бочак і драбін, роўным чынам па арганізацыю пажарных камандаў.

— **Неураджай у Баранавіцкім павеце.** Каля 40 процантаў азімінаў згінула дзякуючы благім атмасфэрычным варункам. Паветовы аддзел зьвярнуўся да Ваявозтва з прозьбай аб пазыцы у разьмеры 500 тысячаў злотых на помач іх засеваў.

— **Помач для пагарэльцаў Лідчыны.** Як ведама г. зв. „чырвоны певень“ асабліва закрануў Лідзкі павет, дзе шмат вёсак згарэла дашчэнтна. Урад пастанавіў прыйсьці з дапамогай пацярпеўшаму насельніцтву. Гэтак Паветавы Аддзел мае атрымаць 65 тысячаў залатых як пазыку з Дзяржаўнага Зямельнага Банку для пагарэльцаў. Апрача гэтага будзе выдавацца дрэва на адбудову з дзяржаўных і прыватных лясоў. Спэцыяльную дапамогу для ахвяраў буры, якая прычыніла шмат шкоды, Старостава падзяліла ў наступны спосаб: вёска Цьвярбуты 500 зал., Лынтупкі 600 зал. Навагрудскі Ваявода заявіў, што яму абяцана у Варшаве асыгнаваньне яшчэ 100 тысячаў зал. на помач пагарэльцам.

— **Новыя „Kółka rolnicze“** У мінуўшым тыдні засталі заложаны новыя „kółka rolnicze“ у наступных мейсцах: Залеся Лебедзеўскай гм. Суцэвічах Маладэчанскай гм. Докштанах Радашкоўскай гм. і ў Хохлях Грудзкай гміны.

— **Новая каапэратыва прадукцыі льну ў Вайстоме Вялейскага пав.** З мэтаю арганізацыі каапэратывы льну 5 жніўня ў Вайстоме Вялейскага павету адбылося першае арганізацыйнае сабраньне рольнікаў з удзелам прадстаўнікоў месцовых самаўрадавых уладаў. Гэта новая каапэратыва ўвойдзе ў склад льняных таварыстваў у Вільні.

— **Справа войта Тарэсоўскае гміны Лідзкага павету.** З прычыны разьбіцьця галасоў у часе выбараў новага войта ў Тарноўскае гміне Лідзкага пав., дзеля чаго выбары не адбыліся. Войт будзе вызначаны старастай Лідзкага павету.

# Карэспандэнцыі.

## Баявая задача Беларускага Раднага.

Гэткай задачай для Беларускага Раднага ёсьць змаганьне за сваю родную школу. Беларускі Радны, як выбраньнік Народу, мусіць стаяць на варце яго інтарэсаў, тым балей змагацца за родную школу, бо школа ва матчынай мове — гэта фундамэнт веды, грунт для далейшага развою культурных сіл кожнага народу.

Дагэтуль нашае сялянства вядзе геройскую барацьбу за свае права на родную школу, складае тысячы дэкларацыяў, але вялікага пасьпеху ў гэтай акцыі не мае, бо няма людзей, якія-бы на месцы падтрымалі гэтыя дамаганьні. Цяпер-жа, калі ёсьць свае прадстаўнікі ў валасных і местачковых радах, якія моуць мець ўплыў на той, ці іншы бег грамадзкага жыцьця, змаганьне за родную школу павінна значна пасунуцца ўперад.

Сялянства ў сваім змаганьні за родную школу мусіць абаперціся на сваіх выбраньнікаў, а тыя у сваю чаргу па апошніх. Толькі пры такіх варунках можна спадзявацца, што беларуская школа завоюе сабе права на фактычнае існаваньне. Беларускі радны, як балей сьвядомая адзінка, мусіць устаць на чале гэтае акцыі. Баяцца тутака няма чаго. Гэта не падпольная, камуністычная работа, а лёяльная, забяспечаная нам польскай Конституцыяй. На паседжаньнях волосных і местачковых радаў кожны сьвядомы беларус-радны, бацька сваіх дзяцей, мусіць выступаць з прапазыкамі аб адчыненьні беларускіх школ, выдаючы ім рожныя дапамогі, каб не чынілася жадных перашкод пры заверках падпісаў бацькоў на дэклярацыях і г. д.

Асабліва гэта трэба рабіць цяпер, калі Урад пачынае іці на спатканьне беларускай асьвеце. Дык Беларускі радны, не прапусьці момэнту, разам са сваімі выбаршчыкамі, спляшеным мурам на школьны фронт!

*Выбаршчык.*

## Барацьба з п'янствам і самаўрады.

Як гэта ня сумна, але прыходзіцца сьцьвердзіць, што з п'янством, з гэтым найстрашнейшым ворагам чалавецтва ў нас на Беларусі не вядзецца жаднай барацьбы.

Дзякуючы гэтаму, п'янства ў нас прыймае вялізарныя разьмеры. Нашае і без таго галотнае, беларускае жыцьцё пад дзействам алкаголю выліваецца ў нейкія дзікія, ненармальныя формы.

Людзі кідаюцца, падобна вар'ятам, адны на адных з чым папала, б'юцца, душацца і ў рэзультаце адны ідуць на той сьвет, а другія ў турму.

Усё гэта было-б паўбяды, каб цадобныя і іншыя вынікі не прыймалі масавы характар, бо калі гэта ёсьць, то гэта паказвае, што тая ці іншая кляса грамадзянства дзякуючы неразмернаму ўжываньню алкаголю траціць на пэўны час свой маральны воблік. А гэта ўжо ёсьць грамадзкая хвароба, з якою трэба энэргічна змагацца, бо ў праціўным разе яна можа расхістаць падваліны грамадзкага жыцьця.

Даўней, у царскія часы, з гэтым злом усё-ж такі велася барацьба. Вяло барацьбу з п'янствам ня толькі звычайнае грамадзянства, але і духавенства, як праваслаўнае, так і каталіцкае, праз разныя таварыствы цьверозвасьці, царкоўныя і касьцельныя брацтвы, праз прэсу, адпаведную літэратуру і г. д.

Трэба сказаць, што вынікі гэтай барацьбы, калі не на вёсцы, то ў местах, сярод фабрычнага жыхарства былі ўдачныя. Тысячы працоўных сямеўстваў, дзякуючы гэтаму пазбавіліся тае руіны, якая ім пагражала ад гарэлкі—атруты. Цяпер-жа гэтага нічога няма. Няма прапаганды ні ў прэсе, ні ў царкве, ні ў касьцеле. Беларускае грамадзянства, занятае партыйнай грызьнёй, ня хоча бачыць таго няшчасьця, у якое пхаюць народныя гушчы алкагольныя напоі.

Паўстаўшыя да жыцьця самаўрады, асабліва беларускія іх часткі, павінны не чакаючы ні на кога, зараз-жа выступіць на барацьбу з п'янствам.

Польскае уставадаўчае права дае магчымасьць валасным і местачковым самаўрадам праз адпаведныя галасаваньні насельніцтва, згодна са сваею пастановаю, спыніць на заўсёды, ці на пэўны час прадажу алкагольных напояў. Вось гэту магчымасьць нашы самаўрады і павінны выкарыстаць ў поўным значэньні гэтага слова.

Праўда, гэта трудная рэчь, спаткаецца шмат усялякіх перашкод, але спробаваць трэба. Апрача гэтага, беларускі радны, калі ён хоча запраўды прынясьці якую колечы карысьць сваім выбаршчыкам, а не пераліваць з пустога ў парожняе, мусіць сам асабіста весьці прапаганду. Беларускія раднікі мусяць згаварыцца між сабой і стварыць пры сваіх радах аддзел па барацьбе з п'янствам, прыцягваючы да яго сяброў са стараны, асабліва жанчын. Ёсьць шмат спосабаў барацьбы з п'янствам і было-б надта прыемна, каб беларускія радныя аб гэтым паважна падумалі. Усё гэта вымагае толькі ахвоты і супольнасьці.

Трэба што-небудзь рабіць, чым супакойна глядзець, як народныя гушчы топяцца ў гарэлцы. Беларускі радны, ты павінен зрабіць пачын у гэтай справе. Ня думай, што гэта нікчэмная, нікуды ня вартая работа.

Не, наадварот,—гэта вялікая праца, хаця яе яшчэ ня ўсе зразумелі.

А калі гэтак, то да працы, а Бог дапаможа. **Выбаршчык.**

## З жыцьця нашай валаснай рады.

Нехта назваў нашу Грыцевіцкую валасную раду—„маўклівай радай“. Трэба прызнаць, што назоў аказаўся вельмі ўдачным. Маўчыць наша рада і па сяньняшні дзень. Ды і што яна можа сказаць, калі асабісты яе склад зусім не адпавядае грамадзкай працы. З 10 радных палова ёсьць Беларусы, два землеўласьнікі, два вучыцелі і адзін — „ні туды, ні сюды“. І вось як на бяду, беларуская частка рады зложылася з людзёў, якім больш да спадобы цішына ды супакой, яны ўсяго баяцца, а больш за ўсё праяваў беларускага руху, дзеля „харошых отношеніяў“, як кажуць расейцы, з валаснай адміністрацыяй, моцна зьвязаны з гаспадаркай і г. д.

Дык ня дзіва, што гэтакія людзішкі на паседжаньнях рады маўчаць, позеўоюць ды храпяць, чымся обгаварываць грамадзкія справы. Карыстаючыся гэтым, другая палова рады праводзіць у жыцьцё ўсё, што захоча. Праўда і наша рада па прыкладу іншых, распрадзяліла сваю працу на розныя камісіі, як санітарную, дарожную, рэльнічую і інш., але праца гэтых камісіяў будзе такая самая, як і самой рады. Пагаманілі нашы радчыкі, што ў валасной гаспадарцы ёсьць шмат якіх недахопаў, ды і замоўклі. Гутарылі нашыя радчыкі і аб тым, што ў воласьці ёсьць шмат абшарніцкай зямлі, якая лічыцца непрыдатнай і за якую абшарнікі нічога ня плацяць, тады калі селянін мусіць плаціць за кожны крок зямлі; але направіць гэткі благі стан рэчаў мусіць не адважыліся.

Нарэшце шопатам казалі адны адным на вуха, што валасная адміністрацыя вельмі вялікія дастае аплаты за сваю працу, але „харошыя отношенія“ сапсавалі ўвесь настрой нашых радчыкаў да грамадзкай працы.

Агулам кажучы, трудна спадзявацца ад нашай валаснай рады якой колькек палёгкі для сялянскага жыцьця. Калі-ж што небудзь яна і надумаецца зрабіць добрага для народу, то будзем чуць і пісаць.

**Селянін.**

## З нашага жыцьця.

(Юрацішская гміна.)

У гмінах, якія адыйшлі ад Валожынскага павету да Лідзкага, пазаставаліся залежныя падаткі, за спагонам якіх быў камандзіраваны з Валожына сэквэстратар п. А. Опухоўскі, які выехаў на сваю працу 1 траўня г.г., працаваў добра, атрымліваў залежныя падаткі, ведама, і прагоны.

У Валожыне доўга чакалі, але не дачакаўшыся ні грошаў, ні сэквэстратара Опухоўскага, паведамілі на ўсе пастарункі, каб яго міласьць пана сэквэстратара сустрэлі с падабаючай пашанай і з ахранаю даставілі да Валожына. 4 гэтага жніўня паліцыянт Юрацішскага пастарунку Водоўскі зайшоў да піўной Драздовіча у в Лепешках пры ст. чыгункі Юрацішкі і абазнаўшы пана сэквэстратара Опухоўскага, запрапанаваў яму сваё ўслугі пад ахранаю даставіць яго на пастарунак. Запытаўшыся, ці мае пан Опухоўскі пры сабе броню, той адказаў, што ніякай броні ня мае і выйшл з піўной.

Опухоўскі ў піўной набраў рожных тавараў больш, як на 40 злот. і заставіў свой уласны вэлёсыпэд. Калі адыйшлі ад ст. Юрацішак да м. Юрацішак, на другой вярсьце сэквэстратар п. Опухоўскі пажадаў паказаць сваю прыць: скінуў з сябе плашч і давай ўцякаць. Паліцыянт Водоўскі зхапіў за свой карабін і пачаў страляць. Опухоўскі спужаўся і здаўся. У гэты час праходзіў па гэтай-жа дарозе солтыс з в. Каркіняты Карль Воемза. Сэквэстратар Опухоўскі прасіў паліцыянта ды солтыса, каб яны не дакладалі, што ён хацеў уцячы. Але шыла ў мяшку не схаваеш.

Нешта ў нашай Юрацішскай гміне не шанцуе: застрэлілася ужо 2 паліцыянты, потым судзілі ў Лідзе каморніка Акружнога Суда Шаюка, засудзілі на 2 гады вастрогу за растрату, які спусьціў шмат злотаў і ў нашай гміне даўся добра усім у знакі. Ён нават хацеў уцячы у С.С.Р., але яго злавілі. **Месцовы.**

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Да ўвагі нашых Самаўрадаў

1927 год даў Беларускаму Народу магчымасьць правясьці ў валасныя і павятовыя самаўрады сваіх прадстаўнікоў. Гэты год і будзе зачесен у гісторыю беларускага гаспадарчага адраджэньня, як год павароту да канкрэтнай працы на ніве нацыянальнага і культурнага поступу нашае вёскі. І няма дзіва, што беларускае грамадзянства ўсіх палітычных кірункаў сустрэла сваіх прадстаўнікоў у валасных і павятовых самаўрадах з аблягчэньнем у сэрцы і з надзей на лепшую будучыню нашае старонкі.

У чым-жа заключаецца наша будучыня?— Вось пытаньне, на якое кожны сьвядомы беларускі радны мусіць даць сабе ясна адказ і саабразна з гэтым направіць свае высілкі для дабра сваіх выбаршчыкаў.

Па нашае думцы галоўную ўвагу беларускім радным трэба зьвярнуць на наша земляробства, над якім трудзяцца амаль ня 90 прац. беларускага насельніцтва. На палепшэньне земляробства Павятовыя Соймікі выстаўляюць у сваіх бюджэтах пэўныя сумы, якія ідуць на сфінансаваньне ўказаных прац. Але на рэалізацыю гэтых пачынаньняў стаяць тыя перашкоды, што падаткі ўплываюць шмат пазьней, чым вымагае замераная праца, зьвязаная часта з сэзонам, пасьля якога праца траціць сваю актуальнасьць.

Вось у гэтакіх выпадках на рэалізацыю гаспадарчых пачынаньняў ідзе на спатканьне Павятовым Соймікам Земляробскі Банк (Państwowy Bank Rolny, Oddział w Wilnie), удзеляючы крэдыт на час 6—9 месяцаў, на працягу якіх соймікі ўсьпеюць сыскаць з люднасьці падаткі і пагасіць даўгі. Гадавое апрацантаваньне гэтага крэдыту выносіць $11^{1}/_{2}$ прац., платных наперад.

На забясьпячэньне гэтага крэдыту Банк прыймае вэксэлі, з паведамленьнем, што пакрыць даўгі маюць падаткі. На атрыманьне пазычкі мусіць быць дан дазвол п. Ваяводай. Да вэксля трэба далучыць дэклярацыю, па якой Банк упаважняецца запаўняць і штэмпляваць вэксэль.

Прызнаныя Банкам крэдыты будуць выдавацца ратамі, у меру патрэбнасьці. Уплата доўгу па вэкслю, выданаму Соймікам, будзе праводзіцца ў меру ўзносу падаткаў, але ў тэрміны, цераз Банк указаныя. Як крэдыт будзе ўжыты, Соймік мусіць даць Банку падрабязную справаздачу.

Крэдыт цераз Земляробскі Банк удзеляецца Соймікам на наступныя земляробскія работы:

1) На паказаныя і дасьледчыя гаспадаркі, калі акцыя не вымагае доўгатэрміновай пазыкі.

2) Для тэй-жа мэты, калі гаспадарка праводзіцца пры сельска-гаспадарчай школе.

3) На куплю расплоднікоў (расавых жарабцоў, быкоў і інш.).

4) На арганізацыю пунктаў для чысткі збожжа і насеньня.

5) На падтрыманьне машынавых таварыстваў.

6) На выстаўкі з паказамі расьлінных прадуктаў і жывога інвентара.

7) На дасьледчыя і паказальныя палі.

8) На сельска-гаспадарчыя курсы.

9) На падтрыманьне сельска-гаспадарчага прамыслу.

10) На мэліорацыйныя працы, калі яны ня вымагаюць доўгатэрміновых пазычак.

11) На будоўлю народных дамоў і г. д.

Павятовыя Соймікі, жадаючы атрымаць крэдыт на вышэйсказаныя мэты, мусяць да паданьняў далучыць наступныя дакумэнты:

1) Копію пастановы Павятовага Соймікіў у справе атрыманьня пазычкі.

У пастанове гэтай трэба указаць:

а) размер пазычкі,

б) бюджэтавыя параграфы, на якія павінна быць атрымана пазычка,

с) пагашэньне пазычкі.

д) паўнамацніцтва Павятовому Выдзялу на правядзеньне гэтай справы.

2) Дазвол п. Ваяводы на атрыманьне пазыкі.

Калі Банк прызнае пазычку, тады ён Сойміку перасылае прамесу — паведамленьне аб прызнаньні пазычкі з падрабязнымі ўмовамі. Па атрыманьні прамесы, Соймік мусіць зараз-жа выслаць Банку вэксэль з дэклярацыяй.

Трэба спадзявацца, што з гэтага крэдыту нашы самаўрады ня прамінуць скарыстацца, чым дапамогуць хутчэй выйсьці нашаму землеробству з таго тупіка, у якім яно сяньня пастаўлена.

## Аб жывёлагадоўлі на Беларусі.

Калі нам нельга пахваліць наагул нашу сельскую гаспадарку, дык жывёлагадоўля ва Беларусі сяньня — убыткавая галіна гаспадаркі. Прыглядваючыся бліжэй да прычыны слабага разьвіцьця жывёлагадоўлі, прыходзіцца падкрэсьліць, што галоўнай прычынай тут будзе неправідловы пагляд (а ад гэтага неправідловы і кірунак) на жывёлагадоўлю. Наш сялянін, будзе ён дробны, ці маючы і засьценак, трымае ў нас рагацізну толькі як машыну для вырабаў гною, ня гледзячы, што гэта „машына“ больш б'е па кішэні гаспадара.

Што нам хлеўны гной патрэбны, што нашы глебы, агалочаныя, ападзольныя вымагаюць гною, гэта факт, пра які будзе лішнім тут гаварыць. Але што гэты хлеўны гной дорага каштуе, дык нашы сяляне гэта мала калі бяруць пад увагу.

Чаму гэта? Адказваючы на гэта пытаньне трэба сказаць, што нашы сяляне ў нас ня хочуць узяць на сябе працу палічыць, колькі каштуе яму гэты гной і ці ня можна было-бы яго чымсьці замяніць.

Гной дае глебе ўсе патрэбныя расьліне складнікі, як азот, фосфар, паташ і вапну. Уносячы ў задавальняючай колькасьці хлеўнага гною, мы адначасна ўносім у нашу зямлю і спажыву для збожжа ў задавальняючай колькасьці. Нашы сяляне бачаць, што гной часам з ураджаем робіць дзіва.

Але гной, што мы вывозім з хлявоў і кладзём на нашу ніву, мае яшчэ і іншае, укоснае дзеяньне. Ад хлеўнага гною ў зямлі застаецца арганічная чорная масса — гумус, што паляпшае фізычныя ўласьцівасьці глебы, прыдаючы ей больш цёмны колер, а ад гэтага яны лепш награваюцца, потым гэтым самым гумус паляпшае структуру (будову) ральлі, робячы яе дробна груздкаватай, ці, як кажуць нашы сяляне, „зямля робіцца сьпелай“.

Гэтыя факты зьяўляюцца лепшымі абаронцамі гною, але яго трэба дабываць з нашае гаспадаркі дарма. Гэта будзе толькі тады, калі мы сваю рагацізну станем лепш даглядаць, больш пільна сачыць за падборам. Палохацца, што прыдзецца паменшыць лік скаціны і гною ў гаспадарцы — тут ня варта. У апошнія часы ўсюды з пасьпехам ужываюць зялёнае ўгнаеньне, якое ня толькі можна замяніць хлеўны гной, але яно шмат танней абыходзіцца нашаму гаспадару. (Аб зялёным ўгнаеньні глебы будзе гутарка ў наступных нумарох „Бел. Раднага“).

Вядома, што наша карова дае ў сярэднім каля 50 вёдзер малака ў год. Гэтая малая прадукцыйнасьць і адбіваецца на дарагоўлі гною.

Калі мы „прымусім“ нашу кароўку даваць ня 50, а 150 вёдзер малака ў год, дык тут гной будзе ў гаспадарцы дарма. А практыка і доследы з кармленьнем у нас нашых кароў паказала, што 150 вёдзер гадавога ўдою для вас ня дзіва. Гэтая-ж самая практыка паказала, што паляпшаючы кармленьне, карова ня толькі аплачвае корм, але дае барышы, у той час, як пры дрэнным кармленьні гэтага корму (салома і сена) яна акупіць ня можа.

Жывёлагадоўля, гэта адна з галін сельскае гаспадаркі, якая болей ўсяго падыходзіць да дробнае ўласнасьці. Вядома, што дагляд, кармленьне, утрыманьне вымагае „вока“. У буйных гаспадарках гэта, „вока“ будзе чужое, наёмнае, якое не прыдасьць працы любасьці, гаспадарскага дбаньня. Між тым у дробных гаспадарках адначасна зьяўляецца і ўпраўляючым, аканомам, работнікам, а жонка яго шчырай памоцніцай.

З чаго пачаць пераход да больш рацыянальнага ўтрыманьня нашае рагацізны? — Думаецца, што калі мы хоць і паволі пачнём паляпшаць свой мясцовы скот — дык гэта будзе найправідловы шлях. Паляпшэньне гэта трэба пачынаць з утрыманьня скаціны як зімой, так і летам. Абмяжоўваючы плошчу зярнавых хлябоў за шчот палявых траваў і бабовых расьлін — гэта дыктуе час. Без травасеяньня мы ня можам павялічыць і палепшыць якасьць нашых кормаў. Палохацца і тут, што мы застанёмся бяз хлеба, — ня прыходзіцца, бо ўводзячы травасеяньне, мы ня толькі павялічваем у гаспадарцы гною, але самім травасеяньнем палепшаем нашае глебы і павялічваем яе ўраджайнасьць. Пры травасеяньню і пры меншай плошчы зярнявых хлябоў ураджай іх будзе большы.

*Гаспадар.*

## Некалькі слоў пра сяўбу жыта.

Прыбліжаецца час сяўбы азіміны, Жыта і пшаніца з поля ўбіраецца. Вось ужо ў гэты момант гаспадар мусіць падумаць, якім насеньнем яму абсяваць свае поле.

Наша сялянскае насеньне мае вельмі нізкую ўсходнасьць, але сёлетні незвычайна мокры і халодны год паказаў, што сялянскае жыта больш трывалае да неспрыяючых кліматычных умоў, чым усе высокарасавыя гатункі. Калі мы возьмем пад увагу той факт, што селяніну купіць сартавога насеньня цяпер трудна, дык паўстае думка, ці ня можна палепшыць сваё насеньне. Усе высокарасавыя гатункі зьявіліся дзякуючы доўгаму і упорчываму адбору (сэлекцыі). Вось на гэты адбор і мы мусім зьвярнуць больш увагі.

Трэба, каб гаспадар выбраў загадзя лепшыя кускі жыта ці пшаніцы на насеньне. Малаціць насеннае збожжа трэба цапамі, або малатарняй. Ніколі абіваць снапы, як гэта часта робяць нашы сяляне, ня можна, бо пры такім спосабе хаця і вылятае буйнае зярнё, але разам з гэтым робіцца адбор зярнят, якія ня моцна дзержацца ў коласе і жыта наша пры здойму яго сыпіцца. Сушыць снапы перад малацьбой у асецях тут ня раіцца.

Збожжа, якое вызначана для засеву, абавязкава павінна быць адсартавана, добра было-б, каб гэта можна зрабіць на спэцыяльных машынах.

Насеньне, якое ўжо адсартавалі, абавязкава трэба спрабаваць ўсходжасьць. Мала ўсходнае насеньне трэба лепш зусім збракаваць, ці ў крайнім выпадку сеяць яго гусьцей. Высяваюць у нас жыта каля 9 пуд. і пшаніцы каля 8 пуд. на дзесяціну (пры высокім % усходжасьці.); для радковага пасеву сяўнікамі патрабуецца на 25% насеньня меней.

Радковы пасеў больш карысны, чым раскідны: ён патрабуе менш насеньня, сяўнік радковы кладзе зярняты роўнымі радкамі, засыпаючы іх на аднальковую глыбіню; расьліны ўсходзяць роўна і разам і неперашкаджаюць адна другой уросьце. Сяўнікі пажадана нашым сялянам набываць таварыствамі, якім соймікі ідуць на спатканьне крэдытам.

Час для пасеву азіміны у нас будзе—для жыта з 28 жніўня да 7 верасьня, а для пшаніцы з 28 жніўня да 14 верасьня (па новаму стылю). Жыта, калі яго высеяць у гэты час, да зімы добра распусьціцца і добра выходзіць вясной з-пад сьнегу. Пшаніца, якая кусьціцца і вясной, высеенная ў гэты час да зімы добра укараніцца і зімою не баіцца марозаў.

Гушчыня пасеву залежыць ад якасьці насеньня; насеньне буйнае, чыстае і добрай усходжасьці, а таксама радковым спосабам, сеецца радзей. На добрай і ўгнаённай зямлі і пры раньнім пасеве — насеньня трэба менш, а на спустошанай зямлі і пры позным пасеве —больш. Такім чынам пасеў залежыць ад якасьці насеньня, глебы, часу і спосабу самаго пасеву.

## Якім насеньнем сеяць.

У нас на Беларусі вельмі мала затрымліваюцца над пытаньнем: „якім насеньнем сеяць". Якое насеньне трапіцца, такім і сеюць. Вось чаму мы бачым, што на нашых палёх расьце быццам не авёс, ці ячмень, а сьвярэпка, гірса, кукуль і іншыя дзікія травы, што сталі неадлучнымі сапутнікамі сялянскай збажжыны.

Адкуль на нашых палёх бярэцца гэтая дзікая трава, якая часта ўшчэнт нішчыць нашы пасевы? На гэта несьвядомыя нашы гаспадары адказваюць, што яе „родзіць зямля", або „ад дажджу", а гірсу лічаць, што яна вырастае з зярня жыта ці пшаніцы.

Разумеецца, што ўсё гэта ня так. Што нашы палоскі засьмечаны з папярэдніх пасеваў, што наносіцца на іх насеньне з межаў, што мы шмат сьмецякоў вывозім з гноем, у гэтым няма сумліву, але што галоўную масу гэтых сьмецьцякоў мы высяваем разам з культурным насеньнем, гэта нажаль, ёсьць праўда. Часьцей за ўсё гэта ёсьць галоўнай прычынай засьмечаннасьці нашых палёў. Змагацца з гэтым злом можна двама спосабамі;

1) З году ў год зьмяняць дрэннае засьмечанае насеньне пакупным добрым зярнём, знарок для гэтага ачышчаным.

2.) Ці што год самому акуратна вычышчаць сваё насеньне на машынах, лепш было-б—на спэцыяльных.

Першы спосаб будзя лягчэйшы. Тут меней клопату, бо варта толькі купіць добра вядомы і адпаведны да нашага клімату і грунту гатунак. Але перашкодай тут зьяўляецца наша хранічнае безграшоўе, асабліва перад пасевам жыта.

Другі спосаб—ачышчаць штогод сваё на спэцыяльных машынах (трыёр, зьмейка і інш.)можна толькі там, дзе яны ёсьць. Цэлы камплект гэтых машын можна нашым сялянам дастаць таварыствам, якім Соймікі ідуць з фінансавай дапамогай.

Толькі цераз спэцыяльныя машыны мы можам збавіцца ад тэй шкоды, якую прыносіць нам засьмечанае насеньне. І гэтая засьмечаннасьць, ад якой мы маем што год вялізныя страты, ня ёсьць цяжкая доля, прад якой гаспадар мусіць скардзіцца, а наадварот, можна толькі сказаць, што ў кожнага гаспадара на полі ёсьць столькі сарнякоў, сколькі ён сам заслужыў сваей нядбаласьцю.

Р.

## Сэрадэля.

Як лубін, так і сэрадэля можа расьці і на дрэннай зямлі і на ялавінах.

Расьце сэрадэля найлепш на лёгкай глебе, дзе мала вапны, можа расьці на макраватых пясках, але ня любіць, калі блізка стаяць грунтавыя воды.

І сэрадэлю, таксама як лубін, добра заворваць на зялёнае ўгнаеньне, чым папраўляецца якасьць глебы. Аднак, па эканамічным мяркаваньням, сэрадэлю часьцей бывае лепш скасіць на зялёны корм, а пасьля яе вывесьці на поле разам з гноем. Каровы вельмі ласы на сэрадэлю, калі яна скошана зялёнай, ад сэрадэлі ка-

ровы павялічваюць колькасьць і якасьць малака і яна ня так выклікае ўздуцьце жывёлы, як канюшына.

На зялёны корм на зіму найляпей сэрадэлю касіць тады, як яна красуе, не даючы ей перакрасавацца, бо гэта можа пацягнуць здыйм сэрадэлі аж да прымаразкаў, што робіць трудным яе сушку. Калі будзем касідь сэрадэлю, як яна ўжо за два тыдні красавала, дык будзем мець добры корм.

Скасіўшы сэрадэлю, сушыць яе трэба ў копках, як і канюшыну, але дзеля таго, што яна вельмі дэлікатна, ня трэба часта варочаць, каб не абцёрці дэлікатных і карыстных лісточкаў.

Калі сэрадэлю сьпяляць, дык пры малацьбе яе асыпаецца шмат лісткоў, якімі добра карміць сьвіней, а сьцяблямі кароў і коней.

Насеньня з сэрадэлі зьбіраецца ад 10 да 40 пудоў з дзесяціны, а сена каля 100 — 150 пудоў.

Р.

## Карысьць ад попелу.

Нашы сяляне скажуць нам:„ кладзіце на нашу зямлю шмат гною, тады і ўраджай будзе добры".

З гэтым трэба згадзіцца, але бяда ў тым, што гэтага хлеўнага гною заўсёды у нас ня хапае. Дык вось, каб папоўніць гэты недахоп у натуральным угнаеньні, трэба зьвярнуцца да пабочных гнаёў. Гутарка тут будзе аб попеле, які часта мы марнуем, ня ведаючы бобра яго карысьць.

Попел, што мы выграбаем з печаў і выносім на сьметнік, складаецца з тых частак расьліны, што апошняя ўзяла з зямлі (паташ, фосфар і вапна). Значыць, калі мы пасеем гэты попел на сенажаці, ці гародзе, на полі, дык мы вяртаем у зямлю тыя часткі, што расьліна ўзяла з яе ў часе свайго ўзросту, апроч азоту (салітры), які пры згараньні расьліны ўцякае разам з дымам у паветра.

Вось-жа, калі мы думаем быць эканомнымі, дык нам трэба зьвярнуць больш увагі на попел, які ня трэба выкідываць вон на вуліцу, але зьбіраць і пераховўваць у сухім месцы, а пасьля сеяць яго пад пашы культурныя расьлінкі.

Як-жа ўжываць попел, калі яго сеяць, сколькі пад кожнае з нашых збажын?

Попел карыстны пад кожную культурную расьлінку, а асобліва на сенажаці, пад бульбу, буракі, лён, канюшыну.

Пад каласовыя збажыны: жыта, пшаніцу, авёс звычайна высяваюць каля 40 пуд. на дзесяціну, пад бульбу, буракі лён, канюшыну да 11 пуд., а на сенажаці да 8 пуд на дзесяціну.

Разсяваць попел трэба як магчыма раней: пад азімай ня пазьней, як перад апошняй воркай (на ральлі ня варта), пад ярыну, на агароды і сенажаці лепш за ўсе высяваць попел з восені. Высяваць яго трэба ў ціхую пагоду, лепш за ўсё раніцай, ці вечарам. Поле зараз-жа па высеву попелу ўзараць, а сенажаць пабаранаваць.

Асабліва карысны попел на лёгкіх і падзолістых глебах.

Высяваючы попел у бальшой колькасьці, трэба асьцярагацца, каб ён часам ня вызваў заскарупеньня зямлі, што вельмі шкодна адбіваецца на росьце расьлінкі. Дзеля гэтага яго заўсёды трэба добра перамяшаць з зямлёй воркай і баранаваньнем

Вялікую карысьць попел дае на сенажаці, з якіх што год мы здыймаем ураджаі, а назад нічога ня вяртаем. На кіслых, балоцістых і тарфяных сенажацях попел часам робіць дзіва, дзе зьвязваючы кісласьць лугу, гэтым спрыяе росту травы. Ад попелу на сенажацях ня толькі павялічваецца травастой, але і паляпшаецца яго якасьць.

З усяго гэтага відаць, што попел — гэта грошы, якія гаспадар мусіць пусьціць у вабарот, а ня выкідваць іх вон. S

# Закон аб павятовым самаўрадзе.

**Распараджэньне Гэнэральнага Камісара Усходніх Зямель, як устаў аб павятовым самаўрадзе.**

(Dz. U. Z. W. Nr.90 poz 1284).

*(Працяг, гл. № 1, 2, 4 і 5 „Бел. Радны").*

## V. Аб крыніцах даходаў павятовых самаўрадавых хаўрусаў.

§ 61. Крыніцамі даходаў павятовых самаўрадаў зьяўляюцца:

1) Даходы ад уласнай маемасьці;
2) Даходы ад самаўрадавых прадпрыемстваў;
3) Агульныя і спэцыяльныя аплаты;
4) Падаткі;
5) Пазычкі, даравізны, запісы, аднаразовыя паступлепьні.

§ 62. Самаўрадавыя прадпрыемствы зараблковага характару вядуцца на прыватна гаспадарчых падставах і падлягаюць усім адміністратывным і скарбовым правілам, якія абязуюць прадпрыемствы, належачыя да прыватных асобаў.

§ 63. Павятовыя самаўрадавыя хаўрусы могуць сьцягваць агульныя аплаты з асобаў, якія карыстаюцца з павятовых самаўрадавых бюро (аплаты канцэлярскія), а роўным чынам і з самаўрадавых інстытуцыяў і установаў, якія ўтрымліваюцца дзеля публічнага ўжытку

(амбуляторыі, установы купальныя, дэзынфэкцыйныя, сьродкі камунікацыі, масты і г. д.).

64. Павятовыя самаўрадавыя хаўрусы могуць сьцягваць спэцыяльныя аплаты на закладку і ўтрымліваньне установаў і інстытуцыяў публічнага ўжытку ад тых уласьнікаў нярухомасьці, а такжа прамыслоўцаў і гандляроў, якія з гэтых установаў і інстытуцыяў маюць спэцыяльныя карысьці.

§ 65. Павятовыя самаўрадавыя хаўрусы могуць сьцягваць падаткі, або ў форме задаткаў да дзяржаўных падаткаў, або ў форме самастойных самаўрадавых падаткаў.

Самаўрадавыя павятовыя хаўрусы могуць сьцягваць гэткія падаткі:

1) падатак грунтовы;
2) „ ад будынкаў;
3) „ ад нярухомасьцяў гарадзкіх і мястэчкавых;
4) „ дарожны;
5) „ ад умоваў аб прадажы лясоў;
6) „ ад гандлю і прамысловасьці;
7) „ ад прадажы гарэлкі (з рэстаўрацыяў, карчмаў, готэляў, цукерняў, сталовак);
8) „ альенацыйны (ад купчых);
9) „ вэтэрынарны;
10) „ ад веласіпэдаў, самаходаў і брычак.

§ 66 Высокасьць падатку грунтовага ўстанаўляе каждагодна распараджэньне Міністра Скарбу.

§ 67 Не падлягаюць аплаце самаўрадавага грунтовага падатку няўжыткі (балоты, сыпкія пяскі, дрыгва, акопы, бліндажы і. г. д.)

§ 68 Падатак грунтовы аплачваюць уласьнікі грунту.

§ 69 Падатак ад нярухомасьцяў гарадзкіх і мястачковых можа быць сьцягваны толькі ў відзе дадатку да адпаведных падаткаў гмінных. Вышыня гэтага дадатку акрэсьлівае кожны год Міністар Скарбу.

§ 70 Падатак ад будынкаў самаўрадавыя хоўрусы могуць сьцягваць:

1) ад будынкаў, якія знаходзяцца ў межах гмінаў і заняты пад установы гандлёвыя і прамысловыя, а так жа і ад будынкаў, якія прыносяць даход ад аддачы іх у наймы на сталыя памешканьні або дачы.

2) Ад будынкаў у мястэчках, ня выдзеляных з гміны, незалежна ад таго, ці гэтыя будынкі заняты самім уласьнікам, ці адданы іншым асобам у бясплатнае або платнае карыстаньне.

§ 71 Падатак ад будынку сьцягваецца у разьмеры да 12 проц. гадовых ад чыншавай вартасьці будынку або — да 1 проц. ад іх вартасьці ацэначнай у выпадку, калі вартасьць чыншавую нельга акрэсьліць.

§ 72 Аплаце падатку ад будынкаў не падлягаюць:

1) бажніцы усіх вызнаньняў, а такжа будынкі пры гэтых храмах;

2) нерухомасьці, якія з'яўляюцца ўласнасьцяй інстытуцыяў навуковых, прасьветных і дабрачынных, хоць у частцы ўжытых выключна дзеля гэтых мэтаў і якія не даюць даходу пры аддачы іх ў наймы.

§ 73 Вартасьць ацэначная будынкаў устанаўляецца з прыняцьцем пад увагу ацэнкі страховай або залогу, якая ўстаноўляна інстытуцыяй доўгатэрміновага крэдыту, а таксама прадажных цэнаў і матар'яльнай вартасьці.

Ацэнка страховых таварыстваў, або крэдытных установаў з папярэдніх гадоў падвышаецца дзеля ўстанаўленьня ўцяпярашняй цаны паводле наступнага маштабу: у выпадку застрахаваньня або залогу нярухомасьці перад 1916 годам, ацэнка страховая або залоговая павялічваецца на 50 проц.; з 1916 году — павялічваецца на 300 пр. і з 1917 г. — на 200 проц. Такая-ж норма павялічэньня тасуецца адносна прадажных цэнаў з папярэдніх гадоў.

§ 74 У выпадках калі на платніка спадзе нечаканая бяда (поўнае зьніштажэньне ўраджаю, зьніштажэньне праз ваенныя выпадкі, градабіцьце, масавага напору жывёлы, пажару), сума самаўрадавага грунтовага падатку, або падатку ад будынкаў можа быць уморана, або зьменшана праз Павятовы Соймік на прапазыку адзелу.

§ 75 Падатак ад умоваў аб прадажы лясоў можа быць сьцягваны праз павятовы самаўрадавы хаўрус у форме дадатку да скарбовай аплаты ад умоваў аб прадажы лясоў у разьмеры да 100 проц. (Dz. Urzędowy Zarz. Cyw. Z. W. № 30 z dnia 15 Listopada 19 r. poz. 322)

§ 76 Падатак ад гандлю і прамысловасьці можа быць сьцягваны павятовымі самаўрадавымі хаўрусамі толькі ў форме дадаткаў у разьмеры да 50 проц. дзяржаўнага падатку ад прадпрыемстваў гандлёвых і прамысловых, якія знаходзяцца ў межах гмінаў вясковых.

§ 77 Павятовыя самаўрадавыя хаўрусы могуць сьцягваць падатак альенацыйны (крэпасны) у разьмеры да 1 проц. ад паказанай ў натар'яльным акце сумы куплі — прадажы нярухомасьці, якая знаходзіцца ў межах павету.

§ 78 На закладзіны і ўтрымліваньне ўстановаў вэтэрынарных, а таксама для змаганьня з заразнымі хваробамі павятовы самаўрадавы хаўрус можа сьцягваць вэтэрынарны падатак у разьмеры і на асновах, акрэсьляных праз павятовы Соймік.

§ 79. Падаткі, прадбачаныя ў п. п. 3, 4 і 10 § 65 гэтага распараджэньня, а такжа іншыя падаткі і аплаты, павятовыя самаўрадавыя хаўрусы сьцягваюць на падставе спэцыяльных статутаў, выданых павятовым Соймікам.

§ 80. За няўзнос у устаноўленым тэрміне падаткаў, або сьпецыяльных аплатаў ад тых платнікаў, якія зацягваюць аплату—сьцягваецца кара ў размеры 1 прац. ад нявыплачанай сумы за кожны месяц, пры гэтым часьць месяца лічыцца за цэлы месяц.

§ 81. Павятовыя самаўрадавыя хаўрусы могуць рабіць пазычкі:

1) доўгатэрміновыя на мэты прадукцыі, альбо на пакрыцьцё надзвычайных патрэбаў, якія вызваны вайной, або стыхійнымі падзеямі.

2) кароткатэрміновыя на пакрыцьцё часовай нястачы гатоўкі у самаўрадавай касе, або на ўтварэньне абаротнага капіталу дзеля вядзеньня апэрацыяў з прадуктамі.

§ 82 Гмінныя ўрады, а такжа інспэктары скарбу абавязаны даваць павятовым самаўрадавым хаўрусам усе патрэбныя данныя абападаткаваньні. Апрача таго Гміныя ўрады павінны выпаўняць усе даручэньні павятовага Аддзелу, якія вынікаюць з выкананьня зацьверджаных падатковых статутаў.

(Канчатак будзе).



## Цэны ў Вільні.

(7 жніўня.)

Жыта (за 100 кілёгр.) 49—50 зл., авёс — 52—53 зл., ячмень бровaровы—53 зл., крупяны—50 зл., вотрубі жытнія—32—33 зл., пшанічныя 33—34 зл. Салома жытняя 8—10 зл., сена 10—12 зл., бульба 15—18 зл.

Мука пшанічная амэрыканская за 1 кілёгр. 1,10—1,20 зл., краёвая I гат.—1,00—1,10 зл., II гат.—80—90 гр., жытняя 65 прац.—78—82 гр., 70 прац. — 75—78 гр.

Сала краёвае I гат. — 4—4,20 зл. за кіл., II гат. — 3,50—3,80 зл. Амэрыканскае 4,00—4,50 зл. II гат.—3,08-4,00

Малако 30—35 гр. літр., сьмятана—2,20—2,50 зл. Тварог 80—1,00 зл., сыр з тварагу—1,80—2,00 зл., масла несалёнае—4,50—5,00 зл., салёнае 4,00—4,50 зл., сьлівачнае—5,00—6,50 зл. Яйкі 1.80—2,00 зл. за дзесятак.

## Біржа.

| | |
|---|---|
| Даляр | 8,88 зл. |
| Англійскі фунт | 43,35 „ |
| Залаты рубель | 4,63 „ |
| Сярэбраны руб. | 2,95 „ |
| Швэйц. франк | 172-171 „ |
| Чырвонец | 26 |



Рэдактар-Выдавец Т. ВЕРНІКОЎСКІ. Бел. Друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.